



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 29 (1116) ГОД XXII БЕЛАСТОК 17 ЛІПЕНЯ 1977 г. ЦАНА 60 гр.


СЯРОД РАБОЧЫХ

## Патрэбны нам кватэры...

**„Фадом“** — гэта фабрыка дамоў. У прамысловым краявідзе Беластока паявілася яна нядаўна, ледзь пяць гадоў таму назад. Знаходзіцца ля вуліцы Звыценства — на дарозе ў Варшаву.

Без гэтай фабрыкі проста немагчыма было б забяспечыць усё нарастаючыя патрэбы ў галіне жыллёвага будаўніцтва. Зараз толькі кааператыўных кватэр чакае ў нас звыш 30 тысяч чалавек. І таму заданні па жыллёваму будаўніцтву на гэтую пяцігодку (1976—1980) у параўнанні з папярэдняй пяцігодкай (1971—1975) павялічваюцца ў нас працэнтаў на 50. Такім чынам, кожны год свае навaселлі будуць спраўляць на Беласточчыне 4—5 тыс. сем'яў. Такую праграму па жыллёваму будаўніцтву ставіць Ваяводскі камітэт партыі, такая праграма вынікае з пастаноў VIII пленума ЦК ПАРП, які адбыўся ў чэрвені гэтага года.

І таму рашылі мы наведаць Беластоцкую фабрыку па вытворчасці элементаў для панельнага жыллёвага будаўніцтва. Яе дырэктар **Генрык Скіба**, расказваючы пра сваё будаўнічае каралеўства, адзначыў:

— Прадпрыемства, якое мы называем **„Фадом-І“**, бо ўжо па-суседску будуецца „Фадом-2, дало першую прадукцыю ў 1973 годзе — 4200 пакояў. З кожным годам у рабочых накапляўся вопыт і яны працавалі ўсё лепш. У мінулым годзе выйшла ад нас ужо столькі вялікагабарытных панеляў, што складзена з іх амаль 10 тысяч пакояў. У гэтым годзе пастараемся даць 11 тысяч, а на 1978 год плануем ужо 12 тысяч пакояў.

— І гэта не таму, што мы любім рэкорды, — уключаецца ў гутарку намеснік дырэктара, галоўны інжынер **Эдмунд Грынявіцкі**. — Проста прымушаюць нас да гэтага грамадскія патрэбы і наш рабочы калектыў гэта разумее.

Які ён, — гэты рабочы калектыў „Фадома“? Загадчык па прадукцыі **Вацлаў Макала** знаёміць мяне са сваімі падуладнымі. Пачынаем ад зварачнага цэха. Чэрвеньская спёка потам залівае вочы, а тут яшчэ засцерагальная вопратка і сноп раскаленых іскраў. І так па восем гадзін, на тры змены ў суткі. **Валянцін Рамановіч** на хвіліну адкрывае сваю супрацыіскравую маску і зноў вяртаецца да працы. Няма часу на пустую гутарку. Ад якасці працы залежыць яго зарплата, а зваршчыку можна зарабіць тут 6—7 і больш тысяч злотых у месяц. Валянцін Рамановіч закончыў асноўную прафесіянальную школу і пастаянна жыве ў Заблудаве.

— Каб не гэта гарачыня, — гаворыць ён, — жыць і працаваць можна было б зусім добра.

(Працяг на стар. 2)



*Валянцін Рамановіч, зваршчык фабрыкі дамоў у Беластоку, на хвіліну адкрыў сваю засцерагальную маску...*



*Вацлаў Панічко (першы з левай) ужо шосты год працуе ў „Фадоме“. Дапамагае яму Бернард Блазук. Праца акордная.*



*Адсюль гатовыя вырабы прадпрыемства „Фадом“ высылаюць на будоўлі.*

ГМІНЫ

## Што ў Чаромсе?

Чаромхаўская гміна займае плошчу 9.700 гектараў, на якой пражывае ў 12-ці вёсках 4.900 жыхароў. Гэта спецыфічная гміна ў ваяводстве. Амаль 75 працэнтаў насельніцтва — гэта сяляне-рабочыя, галоўнай крыніцай даходу якіх з'яўляецца праца на чыгунцы. Толькі невялікая частка людзей жыве з гаспадарак. Зямля тут слабая, пераважна IV—VI клас. І гаспадаркі невялікія, у сярэднім не перавышаюць 4,05 гектара.

У Чаромсе, як і ўсюды ў нас, праходзяць вялікія перамены. Бачым гэта ў сельскай гаспадарцы, і ў разбудове чыгуначнай станцыі, і ў штодзённым жыцці кожнага чалавека.

Кароткую размову аб гміне павядзем сёння з начальнікам Мікалаем Тэлентэюком.

**— Што зменіцца ў Чаромсе ў бліжэйшы час?**

— Многае. Ужо неўзабаве пачнецца пабудова вялікага прадпрыемства, якое будзе прадукаваць чыгуначныя стрэлкі. Пабудова закончыцца да 1980 года. Знойдзе тут працу каля 400 асоб. Узнікне новы рабочы пасёлак на 150 сем'яў. Будуць пабудаваны новыя яслі і дзетсад. Гэты пасёлак атрымае ачышчальню для адвядзення сцёкаў. Апрача таго, ужо ў 1978 годзе пабудаваны будзе водаправод. З яго таксама скарыстаюцца жыхары бліжэйшых вёсак — Кузавы і Ставішчаў. Намагаемся ператтварыць у гмінна-чыгуначны цэнтр культуры цяперашні дом культуры „Калеяж“. У сувязі з гэтым будзе дабудавана некалькі памяшканняў, у якіх пачнуць дзейнічаць гурткі зацікаўленняў, бібліятэка і іншыя культурныя ўстановы Чаромхі. Пабудова пажарнай рамізы, асфальтаванай дарогі да станцыі, паравознага дэпо і ВДТ — гэта толькі важнейшыя заданні на будучыню.

**— А што новага ў сельскай гаспадарцы?**

— На гэтае пытанне адкажу прыкладам. Сельскагаспадарчы кааператыў у Зубачах. Галоўная задача яго — павысіць гадоўлю букатаў. Цяпер зубачоўцы гадуюць 200 штук. Яны ўсе змяшчаюцца ў адной аборы. У будучыні пабудуюцца дзве падобныя аборы. Ва ўсіх аборах увядзецца механізацыя. Зараз галоўнай прычынай незадавальняючай гадоўлі букатаў з'яўляецца недахоп гадаўлянага матэрыялу. Яго кааператыў атрымоўвае ад навакольных сялян і суседніх раёнаў.

**— Што чакае нашы вёскі ў наступныя гады?**

— Зменшыцца колькасць гаспадарак. Не ведаю, ці з цяперашняга ліку 1021 у 1980 годзе застанецца 400.

**— Што за прычына?**

— Прычын некалькі. Але галоўная — гэта магчымасць працы на чыгунцы і нізкая тут якасць палёў.

**— Вы ў Чаромсе нядоўга...**

—У жніўні будзе год.

**— І як вам падабаецца тут?**

— Вельмі. За гэты час я пазнаёміўся з многімі людзьмі і зжыўся з імі. Пазнаёміўся таксама з праблемамі гміны.

(Працяг на стар. 4)



